# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 7 (269) 18 — 24 лютага 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ





**Тое, што старшыня ўрадавай камісіі па святкаванні 450-годдзя з дня выхаду ў свет першай літоўскай кнігі — сам старшыня Сойму Вітаўтас Ландсбергіс, ужо само па сабе сведчанне вялікай значнасці гэтай падзеі для народа, з якім мы колькі стагоддзяў жылі ў адной дзяржаве. І таму наша грамадскасць ветліва і шчыра сустрэла дэлегацыю, якая днямі прыехала ў Беларусь, каб разам з намі адзначыць вялікае свята літоўскага народа. Яе ўзначаліў намеснік старшыні ўрадавай камісіі прафесар Бронюс Гензяліс.**

— Мы пачалі рыхтавацца да гэтай падзеі яшчэ дзесяць гадоў таму, — расказаў ён на прэс-канферэнцыі, што праходзіла 11 лютага ў памяшканні Маладзёжнага тэатра Беларусі. — У бюджэце былі выдзелены сродкі для фінансавання архіўных пошукаў, навуковых даследаванняў і выдання літаратуры XVI стагоддзя, у першую чаргу, факсімільнага выдання самой кнігі Марцінаса Мажвідаса, якая не толькі заклала асновы нацыянальнай пісьменнасці, але і з'яўляецца першай кнігай паэзіі на літоўскай мове.

Рэмігіус Мотузас, дырэктар дэпартамента па рэгіянальных праблемах і нацыянальных меншасцях пры ўрадзе Літвы, расказаў аб тым, што да ўрачыстасцяў была выпушчана спецыяльная сярэбраная манета вартасцю ў 50 літаў, а таксама паштовая марка і штэмпель з выявай Мажвідаса; апроч таго, па рашэнні ЮНЕСКО, юбілей з нагоды 450-годдзя выхаду ў свет першай літоўскай кнігі святкуецца ў 86 краінах. У прыватнасці, першыя навуковыя канферэнцыі прайшлі ў Германіі, а ў Вюртэмбергу, дзе вучыўся адзін з настаўнікаў Мажвідаса — Рапалёніс, будзе ўсталявана памятная дошка.

На ўрачыстым вечары, які адбыўся ў памяшканні Маладзёжнага тэатра, прысутныя даведаліся шмат цікавага з жыцця стваральніка першай літоўскай кнігі Марцінаса Мажвідаса. Хаця дата нараджэння яго невядомая, аднак дакументальна засведчана, што, паступіўшы па запрашэнні прускага князя Альбрэхта ў Кёнігсбергскі універсітэт, ён скончыў яго ў 1549 годзе і, паехаўшы пратэстанцкім пастарам у Рагайну, працаваў там ажно да самай смерці ў 1563 годзе. У Кёнігсбергу ж была выдадзена ў 1547 годзе кніга "Простыя словы катэхізіса", дзе ў вершаванай форме дадзены настаўленні ў малітве, тэксты псальмаў, літоўскі алфавіт. Мажвідас напісаў яшчэ некалькі кніг і падрыхтаваў першы літоўскі песеннік "Хрысціянскія песні" ў дзвюх частках, які выйшаў у 1566-70 гг. (пасмяротна).

Дырэктар навукова-асветніцкага Цэнтра імя Скарыны Адам Мальдзіс, выступаючы на ўрачыстым вечары, звярнуў увагу прысутных на тое, што гэта не простае супадзенне: мы, беларусы, сёлета таксама адзначаем 480-годдзе з дня выхаду першай "Бібліі" Скарыны, выдадзенай ім у 1517 годзе ў Празе, і, прааналізаваўшы падабенства абедзвюх кніг, зазначыў, што агульная культура беларусаў і літоўцаў у Вялікім княстве Літоўскім — гэта вынік гуманістычных тэндэнцый дэмакратычнай дзяржавы, адной з развітых еўрапейскіх краін сярэднявечча.

Пісьменніца Вольга Іпатава, якая прачытала мастацкае эсэ, прысвечанае Мажвідасу, асабліва выдзеліла такі элемент літоўскай культуры, закладзены пастарам Марцінасам, як нацыянальная мова набажэнстваў, бо мова заўсёды бліжэй да народа, чым любыя дзяржаўныя інстытуты, і адзначыла, што, на жаль, наяўнасць (ці, дакладней, амаль поўная адсутнасць) нацыянальнай мовы ў беларускіх храмах і па сёння з'яўляецца вялікай праблемай.

Праграма святкавання была даволі вялікая і разнастайная: выстава жывапісу бацькі і сына Савіцкасаў у Доме дружбы, сустрэчы са старшынёй Камітэта па пытаннях рэлігіі і нацыянальнасцей А.Білыкам, міністрам адукацыі В.Стражавым і супрацоўнікамі яго міністэрства. І там, і ў Таварыстве дружбы і супрацоўніцтва з замежнымі краінамі былі абмеркаваны планы па культурным і асветніцкім супрацоўніцтве паміж дзвюма краінамі.

І, нарэшце, 14 лютага адбыўся прыём Літоўскага амбасадара з нагоды Дня незалежнасці Літоўскай дзяржавы.

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

*(Працяг тэмы на стар. 2 у матэрыяле "Гарант культурнага супрацоўніцтва")*



# ЖЫЦЦЁ, ШТО ДОЎЖЫЦЦА Ў ВЯКАХ

НАТАТНІК ТЫДНЯ

# ГАРАНТ КУЛЬТУРНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

***Перад пачаткам святочных канферэнцыі і канцэрта, наладжаных з нагоды юбілею літоўскай кнігі ў будынку Маладзёжнага тэатра, наш спецыяльны карэспандэнт Зміцер ВОЛКАЎ паспеў сустрэцца з першым сакратаром літоўскай амбасады на Беларусі Вацловасам ШАЛКАЎСКАСАМ.***



— Сённяшняя канферэнцыя прысвечана першай літоўскай кнізе, якая выйшла ў свет 450 гадоў таму, і нас радуе, што ўрачыстасці праходзяць не толькі ў Літве, але і на брацкай Беларусі. У мінулым годзе падобная канферэнцыя адбывалася ў Нямеччыне. Заўтра, гэта значыць 12 лютага, мы адкрываем выставу двух знакамітых літоўскіх мастакоў — бацькі і сына Савіцкасаў. Экспазіцыя адбудзецца ў Доме дружбы на Захарава, 28. Яна працягнецца два тыдні — запрашаем усіх жадаючых.

**— Чаму выбар выпаў на гэтых мастакоў?**

— Проста наша амбасада добра ведае Савіцкасаў, тым больш яны самі выказалі вялікае жаданне паказаць свае карціны беларускай грамадскасці. Мастацкую падзею мы вырашылі прымеркаваць да юбілею "першай кнігі".

**— Вы збіраецеся паказаць нашаму гледачу літоўскія стужкі? Тыдні французскага і польскага кіно, напрыклад, ужо выклікалі ў беларускай грамадскасці вялікую цікавасць.**

— Мы плануем зрабіць паказ літоўскіх фільмаў. Зараз вырашаюцца фінансавыя пытанні. Акрамя гэтага, мы думаем правесці новыя мастацкія выставы. Хочам, каб беларуская грамадскасць пазнаёмілася таксама з нашымі тэатрамі.

**— Было б цудоўна, каб часцей маглі наведваць адзін аднаго прадстаўнікі нашай творчай эліты — мастакі, пісьменнікі, музыкі...**

— Канечне, у нас прадугледжаны на гэты конт розныя льготы. Непасрэдныя сувязі паміж культурнымі дзеячамі нашых дзяржаў мы стараемся падтрымліваць.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# СТРАКАТЫЯ ПАДЗЕІ

* * *

З 7 па 23 лютага ў Галерэі сучаснага мастацтва "Шостая лінія" праходзіць выстава скульптуры, жывапісу і графікі Эдуарда Лапоткі.

* * *

На Беларусі пачаў выходзіць часопіс "ШахАрхіў", які створаны для аматараў лагічнай гульні і шахматаў.

* * *

14 лютага ў Беларускай акадэміі фізкультуры і спорту прайшоў канцэрт "Ляписа Трубецкого".

Тамсама 15 лютага адбыўся канцэрт гурта "Rouble Zone".

* * *

15 лютага ў Тэатры юнага гледача з нагоды выхаду ў свет магнітаальбома "Выбранае" прайшоў канцэрт Касі Камоцкай.

* * *

15 лютага ў Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі адбыўся канцэрт гурта "Плато". Усе жадаючыя мелі магчымасць паслухаць музыку бясплатна.

* * *

20 лютага ў Доме літаратара адбудзецца вечарына, прысвечаная 60-м угодкам нараджэння пісьменніка Міхася Стральцова. У вечарыне возьмуць удзел пісьменнікі і паэты, сябры і сваякі М.Стральцова, артысты мінскіх тэатраў.

# НОВЫЯ КРОКІ "СІМПЛІЦЫСІМУСА"

Ужо неаднаразова за апошні час я з задавальненнем разумею, што мастацтва Нямеччыны — агромністы невычарпальны залаты скарб. У гэтым прымушае пераканацца выстава, зробленая, як кажуць у народзе — "па слядах". У Нацыянальным мастацкім музеі на суд сучаснікаў вынесены малюнкі, якія былі надрукаваны ў нямецкім часопісе "Сімпліцысімус", што існаваў з 1896 па 1942 год. Тут паказаны разнастайныя карыкатуры. Хаця сустракаюцца працы вельмі сур'ёзныя з адценнем сарказму. Задавальняе экспазіцыя і колькасцю прадстаўленага — не менш за 150 малюнкаў. Канечне, тагачасныя мастакі былі ў моцнай залежнасці ад тэхнічных абмежаванасцей друку. І тым больш уражвае завершанасць, якая назіраецца ва ўсім. Да некаторых прац пададзены подпісы. Так, на творы Б.Пауля мы бачым, як два суддзі сядзяць у пакоі для нарады з вінам і закускай. І адзін суддзя кажа: "Чорт бяры, гэтае віно аддае чымсьці гаркавым." На працы Р.Вільке намаляваны Напалеон. Аўтар падае гэткае тлумачэнне намаляванай постаці: "За кулісамі Напалеон быў апошнім трагедыйным героем, пасля яго з'яўляюцца толькі персанажы камедыйныя." Застаецца дадаць, што часопіс быў ліквідаваны падчас другой сусветнай вайны, калі там была змешчана карыкатура на Адольфа Гітлера.



*Чорт бяры, гэтае віно аддае чымсьці гаркавым.*

**Зміцер ВОЛКАЎ**

# У ТВОРЧАЙ ВАНДРОЎЦЫ

Дэвід Андрэ — знакаміты амерыканскі дырыжор з Каліфорніі — зноў наведаў Беларусь. Пабываўшы ў Мінску ў 1995 годзе, спадар Дэвід пакінуў шмат добрых уражанняў ад сваіх канцэртаў, а таксама і шмат сяброў сярод музыкантаў і "немузыкантаў". Калі пазалеташняя праграма складалася пераважна з твораў амерыканскіх кампазітараў, то на гэты раз у яго праграме творы Лядава, Вагнера, Барбара, Бартака. Дырыгент працуе зараз з сімфанічным аркестрам філармоніі і адзначае высокі ўзровень гэтага аркестра, яго незвычайную "гібкасць і эластычнасць". У гаворцы з нашым карэспандэнтам спадар Дэвід адзначыў: "Складанасці ў рабоце ёсць, іх пазбегнуць немагчыма. Амерыканскія музыканты настроены зусім на іншае выкананне, яны літаральна "прапітаны джазам", а ў вас зусім іншая школа, іншая музычная культура. Таму і даводзіцца шмат працаваць папярэдне, шмат рэпеціраваць". Невыпадкова ў сваю праграму на гэты раз Дэвід Андрэ ўключыў п'есу для аркестра венгерскага кампазітара Бэлы Бартака. У гэтага твора надзвіва аптымістычны канец: "Я хачу, каб менавіта Бартак прагучаў на Беларусі, ведаючы ваша эканамічнае становішча, палітычныя складанасці, праблемы, якія пакінуў Чарнобыль. Няхай жа аптымістычны твор Бартака будзе тым праменьчыкам надзеі на лепшае жыццё, якога заслугоўваюць вашыя суайчыннікі". Апрача новай музычнай праграмы спадар Дэвід прывёз на Беларусь дабрачынную дапамогу: лекі для хворых дзяцей, пацярпелых ад Чарнобыльскай аварыі.



І яшчэ адна маленькая дэталь, без якой гэтая інфармацыя, напэўна, была б няпоўнай. Другая грамадзянская прафесія Дэвіда Андрэ — пілот транспартных самалётаў. Гэта таксама і яго захапленне. На радзіме дырыгент мае шасцімесны аэраплан, і, калі надараецца вольны час, узнімаецца ў паветра. Такое нечаканае сумяшчэнне — дырыжор і пілот — спадар Дэвід тлумачыць так: перадусім павінна быць дысцыпліна. "Заняткі музыкай дысцыплінуюць таксама, як і заняткі авіяцыяй. Калі зробіш памылку ў выкананні сімфоніі, сапсуеш уражанне ад усяго музычнага твора, а калі дапусціць памылку ў палёце, гэта можа каштаваць жыцця. Я навучыўся не памыляцца..."

**А.Р.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# ФЛЮІДЫ КАХАННЯ Ў ДОМЕ ПРЭСЫ

Хто б мог сабе ўявіць, што Дом прэсы з аўрай засяроджанай цішыні і адначасова рэпарцёрскай мітуслівасці на гэты вечар стане прытулкам для тых, хто святкуе... Каханне! Так, святы Валянцін літаральна лунаў над другім паверхам журналісцкага дома, дзе, дарэчы, і знаходзіцца зала для прагляданў, а калі прасцей — глядзельная зала. Падкрэсліваю гэта для недасведчаных маіх калег, бо няглядзячы на кідкую абвестку, як высвятлілася, не многія пакуль ведаюць пра дзейснае існаванне гэтай залы ў Доме прэсы. Дарэчы, неўзабаве тут пройдуць Дні французскага і польскага кіно ды шмат якіх іншых цікавых мерапрыемстваў.

Што тычыцца палёту "валянцінак", дык гэтае відовішча можна было параўнаць хіба з яблыневай квеценню: гледачам былі прэзентаваны вясельныя сукенкі для нявест. Мілыя манекеншчыцы з Агенцтва Сашы Варламава дэманстравалі найноўшыя мадэлі мінскіх салонаў-магазінаў "Юнона" і "Прынцэс-модэн". Пасля гэтага абаяльныя вядучыя свята Анжэла Калашнікава і Ала Касцялей запрасілі ўсіх паглядзець французскую кінакамедыю. Вядома ж, пра каханне!

І яшчэ той, хто спяшаўся на незвычайны вечар, усё ж прыпыняўся ў фае перад залай, бо нельга было абмінуць кіёск з разнастайным кніжным багаццем, які разгарнула для нас "Белкніга".

І мы зразумелі: Дом прэсы выпраменьвае сапраўдныя флюіды любові. Да нас з вамі, калегі!

**Л.К.**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# У ЧОРНА-БЕЛЫХ КОЛЕРАХ

У Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава фотаздымкаў Генрыха Цыле. Экспазіцыя складаецца з некалькіх раздзелаў: "Берлін — вуліцы і вулічныя сцэны", "Шарлотэнбург — зборшчыкі сухога галля", "Нязвыклы погляд на звычайныя рэчы", "Раён Крогель і дворы старога Берліна", "Сям'я і асабістае жыццё", "Калегі мастакі і атэлье". Свет прадстаўлены ва ўсіх яго чорна-белых колерах. Калі Цыле паказвае майстэрню скульптара, дык вобразнасць навальваецца на нас адразу, як смерч. Фіксацыя людзей і скульптур выяўляе цэласнасць — высвятляецца кампазіцыя. Здзіўляе, што Генрых Цыле, як фотамастак, рабіў свае працы на пачатку стагоддзя. Фактычна яго дзейнасць аналізуе нашу сучаснасць. Быць можа, з іншым антуражам, са сваімі мадэлямі. Але псіхалогія людзей застаецца ранейшай, таму жабрацтва: прыгожае, дзіўнае, надзвычайнае, вясёлае, цёмнае — накладваецца на наша светаўспрыняцце без болю, хаця і з невялікімі ранамі, якія выклікаLны талентам мастака.

**З.В.**

# БІБЛІЯТЭКАРЫ ВЫВУЧАЮЦЬ ТЭХНАЛОГІЮ СУПРАЦОЎНІЦТВА

3 — 5 лютага ў Мінску прайшоў семінар па вывучэнні UNIMARC-фармату. Гэты семінар быў наладжаны Камітэтам па аўтаматызацыі Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі (каардынатар Уладзімір Голубеў) і Бібліятэчнай праграмай Беларускага Фонду Сораса (каардынатар Віялета Вуцанс). На семінар былі запрошаны вядучыя спецыялісты па электроннай каталагізацыі з найбуйнейшых бібліятэк Беларусі, якія фармуюць асноўныя нацыянальныя інфармацыйныя рэсурсы. Рэспубліканская навуковая медыцынская бібліятэка (дырэктар Яўгенія Гарэлава) прадаставіла памяшканне і стварыла ўмовы для заняткаў.

UNIMARC-фармат з'яўляецца міжнародным стандартам стварэння і прадстаўлення каталагізацыйных запісаў у электроннай форме. Пры ўжыванні гэтага стандарту запісы пра дакумент, зробленыя адной бібліятэкай, могуць стаць даступнымі кожнай іншай бібліятэцы краіны альбо свету. Бібліятэкі Беларусі, маючы значнае адставанне ад еўрапейскага ўзроўню, працуюць без уліку магчымасці абмену інфармацыяй паміж сабою і бібліятэкамі і інфармацыйнымі цэнтрамі за мяжой. Пераход бібліятэк на новыя інфармацыйныя тэхналогіі без выкарыстання камунікатыўнага фармату UNIMARC не дае станоўчага выніку. Выкарыстанне фармату UNIMARC з'яўляецца нормай дзейнасці цывілізаванага бібліятэкара.

На Беларусі няма ні нацыянальнага цэнтра, ні спецыялістаў па выкарыстанні UNIMARC-фармату, таму трэнеры на семінар былі запрошаны з Масквы. Гэта старшыя навуковыя супрацоўнікі Дзяржаўнай публічнай навукова-тэхнічнай бібліятэкі Расіі Эльза Лабанава і Алена Фралова — вядучыя спецыялісты ў СНД па выкарыстанні UNIMARC-фармату. Мэта семінара — падрыхтаваць экспертаў па UNIMARC-фармаце ў буйных бібліятэках Беларусі. Канчатковая мэта — спрыяць інтэграцыі раз'яднаных інфармацыйных рэсурсаў Беларусі спачатку на нацыянальным узроўні, потым на міжнародным для забеспячэння свабоднага доступу да інфармацыі. Гэтая мэта з'яўляецца адным з прыярытэтаў Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі і Бібліятэчнай праграмы Беларускага Фонду Сораса.

**Беларуская бібліятэчная асацыяцыя**

# КРАН ЯК СІМВАЛ ФАТАГРАФІІ

У бібліятэцы імя Янкі Купалы з 27 студзеня па 3 сакавіка праходзіць выстава фотаработ Міхаэля Шэфера, яна з серыі выстаў "Аспекты сучаснай нямецкай фатаграфіі", што ладзяцца па ініцыятыве Інстытута імя Гётэ і Інстытута міжнародных сувязей. Цікава, што экспазіцыя дэманструецца ў лекцыйнай зале. На месцы арганізатараў я б скарыстаў гэты момант для правядзення лекцый па гісторыі нямецкай фатаграфіі. Такі сімбіёз павінен быў бы кардынальна паспрыяць наведванню выставы Міхаэля Шэфера. А так... Нейкія рэдкія-рэдкія гледачы. Што датычыцца саміх прац... Мяне ўразілі рамы са шклом — яны проста шыкоўныя. Ды, напэўна, адзін здымак з вываў пад'ёмнага крана.

**Наш кар.**

ЕСЦЬ ПЫТАННЕ!

# ПАПЕРЫ НА БЕТОНЕ

**Як вядома, паабапал дарог у горадзе стаяць слупы. Стаяць яны, каб дарыць нам па вечарах святло, каб у цемры не разбівалі мы насы і калені, спатыкаючыся аб бетонныя балясы і панелі, дый увогуле, каб не гублялі мы арыентацыю ў каменных джунглях. Аднак з даўніх часоў гарадскія слупы выконвалі ролю інфарматараў. У Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме на калонах і сценах фарбамі пісалі ўказы ўрада альбо імператараў, змяшчалі абвесткі аб продажы рабоў ці коней і да т.п.**



СЛУПЫ сучасных гарадоў Беларусі не выключэнне, праўда, яны не размаляваныя рознымі фарбамі, затое буяюць прыклеенай да іх папяровай лістотай. Шчыра кажучы, датычыцца гэта не толькі слупоў, але і сценаў, і платоў, і шапікаў, размешчаных на людных участках гарадскіх камунікацый: прыпынках аўтобусаў, тралейбусаў і трамваяў, пешаходных пераходах, уваходах у крамы, каля пад'ездаў і ў ліфтах. Сляды клееных абвестак я знаходзіў нават каля помнікаў, напрыклад, каля помніка Марату Казею,— які змест такой аб'явы — здагадвацца не наважваюся.

Відавочна адзінае — мы, жыхары горада, выступаем сведкамі і ўдзельнікамі бурнага жыцця вялікага стыхійнага рынку прапановаў, які назойліва і часам нахабна вышуквае сабе сярод нас попыт. Але ж, безумоўна, тое, у якой форме, дзе, як і менавіта што напісана ў прыклеенай абвестцы, сведчыць аб узроўні нашай культуры.

Магчыма, слова культура ўжыта ў даволі шырокім кантэксце, бо тэкставае і мастацкае афармленне такога эпісталярна-прыкладнога твора ў першую чаргу выступае як паказчык элементарнай пісьменнасці, а пасля ўжо ідуць пытанні стылю і густу.

А што пра гэта можна казаць, калі сустракаюцца абвесткі гэткага зместу:

*"Прадаётся тушь телёнка"*

альбо

*"Хачу двух молодых девушек прихадите на квартиру после 18 00"*

(Арфаграфія і пунктуацыя арыгіналаў захавана без зменаў.)

Бывае, вяртаешся дамоў з працы, а на прыпынку вісіць страшэнны намаляваны чэрап, а пад ім незразумелая частка, але відавочна жаночага цела, а паміж чэрапам і гэтым вось прыкладна такі надпіс:

*"Быстро и качественно татуировки всех видов, исправление старых и испорченных".*

Дык што, калі не зробіш татуіроўку, цябе чакае смерць, альбо пэўная частка цела будзе падобная да жаночай?

А якія высновы аб маральна-псіхалагічным стане нашага грамадства можна зрабіць, калі бачыш гэткія аб'явы:

*"Не дорого! Без боли. Анонимно. Косметический шов. Удаляем: атэромы, липомы, фибромы, вросшие и деформированные ногти. Иссечем грубые послеоперационные рубцы. Восстановим целостность (!!!) девственной плевы."*

Ці магчыма давяраць гэткім "дахтарам", якія разам са здароўем бяруцца вылечваць і "честь".

І самае смешнае, што далей на слупах можна знайсці прапанову "самых качественных противозачаточных таблеток".

А вось яшчэ адзін шэдэўр "дасціпнага" заваблення неразумных кліентаў.

*"Вас не беспокоит головная боль, лишний вес, боли в желудке, пояснице, суставах? Нет проблем с кожей? Если нет, тогда Вы не наш клиент! Кто так не считает, обращайтесь к нам."*

Бачыце, як хітра, пакуль нічога не баліць, хадзіце спакойна, "вы не наш клиент", а калі адчуеце "проблему", напрыклад,"с кожей" , бягом да нас, і толькі да нас!

Таксама, не-не, дый нарвецца погляд на палохаючы надпіс

*"ВНИМАНИЕ!"*

Міжволі думаеш, што працяг будзе наступнага кшталту:"Осторожно, не влезай, убьет!"

Дык не, аказваецца рэч зусім іншая:

"ВНИМАНИЕ! МЫ ПОХУДЕЛИ НА 3 КГ И НА 18 КГ. БЕЗ ДИЕТ."

Недарэчнасць фразы і ў тым, што не зразумела, хто пахудзеў на 3 кг, хто на 18 кг, ці гэта ў аднаго чалавека схуднела нага на 3 кг, а жывот на 18 кг...

А колькі і чаго трэба з'есці перад тым, як на поўным сур'ёзе сцвярджаць: "Мы пахудзелі на 20 кг за 20 секунд!"?

Увогуле, каб існаваў рэйтынг частотнасці слуповых прапановаў, то абвесткі характару "мы дапаможам вам пахудзець" трывала ўтрымлівалі б першую пазіцыю.

"Толькі мы ведаем, як вам пазбавіцца лішняй вагі, толькі ў нас лепшая карэкцыя вагі, толькі ў нас лепшы "сжигатель жира". Даходзіць да абсурду. На адным слупе можна ўбачыць, што за пэўную суму вам прададуць прэпарат, выраблены з расліны ліўневых лясоў Амазоніі, пасля на іншай паперцы паведамяць, дзе і хто бясплатна параіць, як вам пахудзець, і на тым жа слупе пралямантуюць:

*"Срочно! Требуется 80 человек, страдающие лишним весом, которым (!!!) заплатят, если они в течение месяца, принимая наш препарат, похудеют более чем на 10 кг".*

Наконт аднаго такога "прэпарата пахудання" мой сябар пажартаваў:

— На этыкетцы было напісана: размяшайце яго ў вашым любімым напоі і выпейце. Размяшаў я яго ў піве, і што ты думаеш, толькі сапсаваў свой любімы напой.

Па колькасці аб'яваў пра пахудзенне на душу насельніцтва ствараецца ўражанне, што ў Беларусі жывуць адны толькі таўстуны. А пахудзенне — панацэя ад усіх бедаў, нават эканамічных.

Для мяне ж заклік "Пахудзейце!", які трапеча ад ветру на кожным слупе, увогуле выглядае кашчунна, бо ў час беспрапыннага дарожання прадуктаў харчавання і працы выключна за "кавалак хлеба", думаеш, якім гэта чынам утрымаць у арганізме апошнія ўласныя пратэіны.

Другімі па частаце займання слуповай плошчы сустракаюцца аб'явы з прапановай дадатковай працы. Безумоўна, у часы наяўнага і прыхаванага беспрацоўя дадатковы заробак вельмі дарэчы. Тым больш і прапановы цікавыя — ад 50 да 1000 даляраў, а яшчэ праца ў любы выгодны для вас час.

Каму не хочацца падзарабіць. Здавалася, гэткія аб'явы павінны абрывацца з "мясам" адразу, як толькі іх прыклеяць. Аднак гэтага не адбываецца, дый аб'яў такога кшталту не змяншаецца, а хутчэй наадварот.

Насцярожыла мяне адна, гэтак мовіць, змяшаная аб'яўка, дзе разам з вашым пахудзеннем прапанавалі і дадатковы заробак. Аказваецца, усё проста: купляеш дзіва-прэпарат сабе, потым бярэш пад валютны залог яшчэ колькі порцый і прадаеш ужо сам. Невялікі працэнт ад выручкі і атрымаеш. Прэпарат каштуе не танна, вось і даводзіцца пабегаць, каб знайсці багатага таўставатага сваяка ці знаёмага, пераканаць яго, што без прэпарата ён жыць не зможа. А калі такіх няма, то завішчыш на кожным слупу, што ведаеш, як пахудзець. Як жа не ведаць, калі разам з рэшткамі ўласнага тлушчу рэшткі ўласных нерваў страціў.

Аднойчы я сарваў тэлефончык з аб'явы з прапановай выгоднай працы і праз тыдзень трапіў на сур'азмоўе ў адну на першы погляд годную страхавую кампанію. І што ж, карціна тая ж самая — колькі знойдзеце чалавек, якія згодныя застрахаваць сваё здароўе ці маёмасць у гэтай кампаніі, столькі грошай і атрымаеце. Я падумаў, на якую суму могуць застрахавацца мае сябры, і ветліва адмовіўся ад працы.

Так што, перад тым як уладкоўвацца на падобную працу, трэба заўсёды помніць цудоўную прымаўку: "Дармовы сыр бывае толькі ў мышалоўцы".

Сярод стракатых аб'яваў на слупах сустракаюцца даволі экзатычныя, напрыклад:

*"Два поклонника трактора "Беларусь"хотят познакомиться с двумя поклонницами трактора "Беларусь".*

Арыгінальнасць прапановы была ацэнена, бо папяровыя пялёсткі былі сарваны.

Ёсць і такія:

*"Быстро и качественно на русском и белорусском языке слагаю стихи-поздравления на праздники, Дни рождения и другие семейные торжества".*

Не ведаю, ці можна казаць пра беларускую мову, як пра жывую і дзейную, калі яна цалкам выціснута з ужытку на стыхійным рынку прапаноў. І ўсё ж такі я быў прыемна здзіўлены, калі на прыпынку каля гатэля "Турыст" на слупе прачытаў аб'яву на чыстай беларускай мове, дзе прапанавалася трывіяльная рэч:

*"Якасна, у кароткі тэрмін, танна зробім рамонт кватэры".*

Мне было прыемна за тую брыгаду рабочых, якія адважыліся напісаць зварот-рэкламу на непапулярнай для гэтае справы мове.

А вось іншая абвестка:

*"Распечатую, отредактирую и развешу по указанным маршруте вашы объявления" —*

прыляла мяне на думку, што лепей было б, каб абвесткамі ў горадзе займаліся прафесійныя людзі ці рэкламныя канторы.

Хаця, як кажуць, нельга кіраваць стыхіяй, але яе ўздзеянне трэба ўлічваць. Чаму, напрыклад, не зрабіць на тых жа людных месцах спецыяльныя дошкі для бясплатных аб'яваў?

АПАКУЛЬ мы маем тое, што маем, таму перад тым, як "клюнуць" на прывабную абвестку, добра падумайце, бо папера на бетоне — яшчэ не прапанова.

**Сямён ПТАШКІН**

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ГАСЦЯВОЕ КРЭСЛА

# У СВЕТ ПРЫГОЖАГА

***Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны памятаюць канцэрты франтавых агітбрыгад. Яны нагадвалі воінам пра дом, умацоўвалі надзею на хуткую перамогу над ворагам. Менавіта на фронце многія ўпершыню пачулі чароўныя галасы Клаўдзіі Шульжэнка і Леаніда Уцёсава. Самымі першымі ўдзячнымі слухачамі найвялікшага твора Дзмітрыя Шастаковіча — Шостай сімфоніі — былі мужныя абаронцы Ленінграда.***

***Змяніўся час, але працягваюць жыць сувязі дзеячаў мастацтва, творчых калектываў з арміяй.***

***Рэфармаванне Узброеных Сіл не ўнесла істотных змяненняў у ваенна-шэфскую работу тэатраў, музеяў, студый. Нягледзячы на вымушаную "камерцыялізацыю". Хутчэй за ўсё таму, што ўзначалілі вайскова-шэфскую работу людзі разумныя, сталыя, адказныя. Пра сумесную працу творчых калектываў і кіраўніцтва вайсковых часцей па выхаванні вайскоўцаў мы гутарым з адказным сакратаром рэспубліканскай вайскова-шэфскай камісіі Анатолем ВАРАБ'ЁВЫМ.***

**— Анатоль Паўлавіч, хто наладжвае вайскова-шэфскую працу і якую мэту яна мае ў сённяшніх умовах?**

— Адным з накірункаў выхаваўчай працы ў арміі з'яўляецца маральнае выхаванне вайскоўцаў. Частку якогных задач вырашае вайскова-шэфская праца. Наладжваюць яе Міністэрства культуры, Міністэрства навукі і адукацыі, Міністэрства абароны.

Практычнай рэалізацыяй планаў займаецца рэспубліканская вайскова-шэфская камісія, у склад якой уваходзяць вядомыя дзеячы культуры, прадстаўнікі зацікаўленых ведамстваў. Кіруе ёю працай кампазітар Ігар Лучанок, які знаёмы з арміяй не па чутках і ведае каштоўнасць той атмасферы свята, якую прыносяць артысты, музыканты, мастакі ў вайсковыя калектывы. Арганізацыя шэфскіх канцэртаў, наведванне вайскоўцамі музеяў і выстаў, відовішчаў, спектакляў, наладжванне лекцый і гутарак — вось сфера дзейнасці вайскова-шэфскіх камісій.

**— Так, але іх правядзенне патрабуе немалых грошай...**

— Ні Міністэрства абароны, ні Міністэрства культуры непасрэдных выдаткаў на правядзенне шэфскіх канцэртаў і іншых мерапрыемстваў не нясуць. Артысты выступаюць бясплатна, а транспартныя і арганізацыйныя выдаткі кладуцца на вайсковыя часці, якія з гэтым пакуль спраўляюцца.

**— Часта людзей у форме, асабліва суворыўцаў, можна пабачыць у тэатрах, музеях Мінска. Трэба меркаваць, гэта невыпадкова?**

— Практычна на кожнае культурнае мерапрыемства, канцэрт, пастаноўку мы атрымліваем запрашэнні, пераадрасоўваем іх воінам Мінскага гарнізона, суворыўцам, курсантам і слухачам Вайсковай акадэміі. Чалавек у форме — жаданы госць у кожным творчым калектыве. Напрыклад, артысты цырка двойчы на год, 23 лютага і 9 траўня даюць бясплатныя прадстаўленні для вайскоўцаў. Тэатр музычнай камедыі ўлетку ўдзельнічаў у агітперапёце па гарнізонах Беларусі. Існуюць моцныя шэфскія сувязі воінаў і з іншымі тэатрамі, музеямі.

**— Бясспрэчна, у Мінску ёсць дзе адпачыць. А як жа ў аддаленых гарнізонах? Ці ахвотна едуць туды артысты?**

— У кожным асобным гарнізоне ёсць свае мясцовыя ўстановы культуры. Апрача гэтага, плануецца шмат выязных мерапрыемстваў. У глыбінцы сустракаюць артыстаў з асаблівай цеплынёй і сардэчнасцю. Здаецца, што падчас канцэртаў людзі забываюцца на ўсё. Асаблівых цяжкасцей у арганізацыі падобных мерапрыемстваў мы не адчуваем. Большасць творчых людзей з жаданнем едуць у вайсковыя гарнізоны. У арміі сёння служыць моладзь, у якой погляды на свет прыгожага не ўсталяваліся. Сустрэча з артыстамі можа вызначыць гэтыя погляды. Сённяшні салдат — гэта заўтрашні пастаянны глядач.

**— Ці не стане ўдарам па вайскова-шэфскай працы далейшая "камерцыялізацыя" мастацтва?**

— Не думаю. Беларускі народ, артысты, мастакі, літаратары вельмі паважна і трапятліва ставяцца да арміі. Перакананы, што ніякая "камерцыялізацыя", ніякія іншыя цяжкасці не перашкодзяць. У многіх творчых людзей у арміі служаць сыны. Вайскова-шэфскую працу яны разглядаюць як выкананне свайго патрыятычнага і грамадзянскага абавязку.

Сённяшні дзень стварае цяжкасці іншага кшталту. На жаль, тэлебачанне, радыё выхоўвае ў маладога чалавека спажывецкае стаўленне да мастацтва, адбірае глебу для працы душы, думкі. Зараз не кожны здольны ацаніць оперу, спевы харавой капэлы, музыку ў выкананні камернага або сімфанічнага аркестра. Гэта патрабуе пэўнай падрыхтоўчай працы.

Службу ва Узброеных Сілах праходзяць юнакі з розных сацыяльных груп і слаёў. Сярод іх нямала тых, хто з аб'ектыўных або суб'ектыўных прычын не быў ні ў тэатры, ні ў музеі, ні ў цырку. А магчымасць судакранцца са светам прыгожага падчас службы пакіне добры след у памяці на доўгія гады, абудзіць цікавасць, жаданне спазнаць гэты свет.

23 лютага – Дзень абаронцаў Айчыны








Падрыхтаваў Міхаіл СЦЕПАНОВІЧ
Фота Генадзя ЖЫНКОВА

# ДА КНІГІ З ЛЮБОЎЮ

***У гарнізонах Узброеных Сіл налічваецца больш за дзвесце бібліятэк з агульным кніжным фондам каля 2,5 мільёна паасобнікаў. Раней яны абслугоўвалі больш за 240 тысяч чытачоў Чырванасцяжнай Беларускай вайсковай акругі. Сёння колькасць чытачоў аб'ектыўна паменшылася — скараціліся прыкладна ўтрая Узброеныя Сілы. Скарачэнні закранулі і бібліятэкі, і бібліятэкараў. Але да гонару апошніх бібліятэчная праца ў арміі не была разбурана.***

***Дзякуючы энтузіязму супрацоўнікаў не згубілася ніводная кніга з бібліятэк скарочаных часцей. Усе яны былі пераразмеркаваны ў іншыя фонды. Наладжаны строгі ўлік, годнае захаванне кніг, іх папаўненне.***

***Пра ролю і месца кнігі ў выхаванні вайскоўцаў, пошукі новых формаў працы з чытачом супрацоўнік прэс-службы Міністэрства абароны гутарыць з загадчыцай бібліятэкі Цэнтральнага Дома афіцэраў Людмілай ДОМНІЧ.***

**— Людміла Уладзіміраўна, што з сябе ўяўляе бібліятэка, якія яе магчымасці ў працы з чытачом?**

— Бібліятэцы больш за 50 гадоў. Яна равесніца Дома афіцэраў. У гады вайны яна была вывезена ў Смаленск. Пасля вайны зноў вярнулася ў Мінск. Сёння яе кніжны фонд складае больш за 100 тысяч. Мы маем кнігі па ўсіх галінах ведаў, добра захаваныя. Ёсць нават дарэвалюцыйныя выданні. Напрыклад, такія, як слоўнік Бракгаўза-Эфрона, ваенна-энцыклапедычны слоўнік, іншыя даведачна-энцыклапедычныя кнігі. Імі карыстаюцца тыя, хто займаецца вайсковай гісторыяй. Гэта наш гонар, і мы іх беражліва захоўваем.

У бібліятэцы тры аддзелы: абанементны, чытальная зала і філіял пры Галоўным штабе. Раней філіяла не было. Ён створаны за кошт кніжнага фонду расфармаваных часцей.

Чытальная зала разлічана на 70 наведнікаў. Можам забяспечваць чытачоў любой наяўнай літаратурай. Але чытачоў у нас тут не шмат. Не ўсе ведаюць, што ў чытальнай зале мы абслугоўваем кожнага наведніка. Мабыць, перашкаджае ведамаснасць. Хаця я ведаю, што выкладчыкі некаторых ВНУ Мінска рэкамендуюць сваім студэнтам працаваць менавіта ў нашай бібліятэцы.

На абанеменце мы абслугоўваем толькі тых, хто звязаны ці быў звязаны з арміяй: кадравых вайскоўцаў і тых, хто ў адстаўцы, членаў іх сем'яў. Узровень абслугоўвання чытачоў у нас высокі.

**— Якія тэндэнцыі чытацкага інтарэсу пераважаюць сёння? Якія кнігі чытаюць?**

— Адразу павінна заўважыць, што з прычыны пераацэнкі каштоўнасцей змянілася арыентацыя чытацкага попыту. Колькасць чытаючых паменшылася, але вялікім попытам сталі карыстацца сур'ёзныя кнігі, творы класікаў. Чытачам ужо надакучылі бульварныя раманы, літаратурная безгустоўшчына. Заўсёды попытам карыстаецца навуковая і даведачная літаратура...

**— Ці ёсць магчымасці папаўняць кніжны фонд? За кошт чаго гэта робіцца?**

— Штомесяц на набыццё кніг мы выдаткоўваем каля паўмільёна рублёў пазабюджэтных сродкаў. Іх нам дае кіраўніцтва Дома афіцэраў з прыбыткаў ад курсавой сеткі і арэнды. Сума гэта цалкам дастатковая для таго, каб набыць добрыя кнігі. Але, на жаль, выдавецтвы зараз арыентаваныя на дэтэктывы, мемуары новых палітычных дзеячаў, бульварную літаратуру. Толькі нядаўна з'явілася надзея атрымаць тыя падпісныя выданні, на якія мы падпісаліся пяць гадоў таму.

Прыносяць да нас кнігі і прыватныя асобы. Перадаюць іх у дар. Нядаўна прафесар Уладзімір Лезераў прынёс вялікую колькасць кніг па вайсковай справе, па гісторыі. Частку іх мы пакінулі ў бібліятэцы, а штосьці перададзім у аддаленыя гарнізоны.

**— Што Вы робіце, каб захаваць чытачоў? Ці з'явіліся новыя формы працы з імі?**

— Мы імкнемся зрабіць формы працы больш разнастайнымі. Нядаўна пачалі наладжваць вусныя часопісы "Агучаны радок", іх нам дапамагаюць рыхтаваць рэдакцыі газет.

Арганізоўваем літаратурныя сустрэчы. Любая падзея ў культурным і літаратурным жыцці адзначаецца.

Актыўна працуем з вайскова-тэхнічным таварыствам. Выязджаем у іншыя гарнізоны. Прычым вязем альбо выставы, альбо новыя кнігі. Едзем туды з якімі-небудзь падрыхтаванымі мерапрыемствамі.

Дапамагаем чытачам падбіраць літаратуру па пытаннях, што іх цікавяць. Робім агляды найбольш цікавай выдаваемай літаратуры.

**— Для ўстаноў культуры зараз надышоў нялёгкі час. Ёсць, мабыць, цяжкасці і ў Вас?**

— Цяжкасці абумоўлены перадусім адсутнасцю выдаваемай спецыяльнай вайсковай літаратуры па Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь. А яна вельмі патрэбная для вучобы вайскоўцаў, арганізацыі выхаваўчай працы. Таму мы пакуль не можам задаволіць цалкам попыт нашых чытачоў. Але імкнемся да гэтага і не губляем надзеі на лепшыя часы.

РАСКАДРОЎКА

# АДНО ЖЫЦЦЁ

Так назвалі дакументальны фільм пра майстра кінематаграфіі Сяргея Герасімава маскоўскія кінарэжысёры Рэніта і Юрый Грыгор'евы. Стужку неаднойчы дэманстравалі на тэлеэкране (як вядома, сёння — гэта адзіны сродак паказу дакументальных фільмаў). У Мінску фільм паказвалі і на вялікім экране летась у Рэспубліканскім палацы ветэранаў на вечарыне, прысвечанай памяці вядомага кінематаграфіста, дзеяча культуры, лаўрэата шматлікіх прэмій. Творчы клуб "Сустрэчы на ростанях" наладзіў сеанс успамінаў пра чалавека, які меў непасрэднае дачыненне да ўсіх звёнаў шматгаліновага творчага працэсу. Не памылюся, калі скажу, што большая частка беларускіх кінематаграфістаў старэйшага і сярэдняга пакалення атрымалі сваю прафесійную адукацыю ва Усесаюзным (цяпер Усерасійскім) дзяржаўным інстытуце кінематаграфіі (ВГІК), які зараз носіць імя С.А.Герасімава. Наш старэйшы акцёр Мікалай Яроменка лічыць Герасімава сваім "хросным бацькам" у кінематографе. Менавіта ў яго стужцы "Людзі і звяры" ён сыграў першую вялікую ролю, якая прынесла акцёру ўсесаюзную славу.

Майстра неаднойчы прыязджаў у нашу рэспубліку для ўдзелу ў творчых кінематаграфічных мерапрыемствах. Вядома таксама з гісторыі, што ў гады Вялікай Айчыннай Герасімаў, які быў дырэктарам Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў, асабіста дапамагаў беларускім кінематаграфістам манціраваць поўнаметражны фільм "Вызваленне Савецкай Беларусі". Яго аўтарамі былі шматлікія апаратары і беларускія рэжысёры У. Корш-Саблін, М.Садковіч.

Я прадбачу пытанне: з якой нагоды мы сёння звяртаемся да гэтай асобы ў час, калі мы, здаецца, разышліся па розных напрамках. Герасімаў — гэта частка агульнай гісторыі ... І своеасаблівыя юбілеі такіх яго славутых стужак, як "Ціхі Дон" (1957 — 58 гг.), "Журналіст" (1967 г.), будуць адзначацца, спадзяюся, і на нашым БТ. У апошнія гады адбылося шмат юбілеяў фільмаў, створаных майстрам. Але рэжысура — гэта толькі адна з мноства галін дзейнасці Герасімава. Амаль 40 гадоў разам з жонкай Тамарай Макаравай (вядомай актрысай) ён узначальваў у ВГІК аб'яднаную рэжысёрска-акцёрскую майстэрню. На пачатку сямідзесятых яе закончыла і група беларускіх акцёраў, якія склалі касцяк тэатра-студыі кінаакцёра.

У зборніку "Пасляслоўе", выдадзеным летась ВГІК, увайшлі думкі і развагі Герасімава аб прызначэнні мастацтва, яго грамадзянскіх і маральных высновах. Яны і сёння застаюцца актуальнымі. Асноўнай перадумовай творчасці Герасімаў лічыў няспыннае імкненне "так валодаць сродкамі мастацтва, каб дапамагаць людзям жыць, а не ўсяляць у іх страх, агіду да жыцця... фільмы, павінны валодаць запасам трываласці — мастацкай, светапоглядной". Сяргей Апалінарыевіч быў перакананы, што мастакоўскі талент абавязкова ўключае ў сябе апроч здольнасці рацыянальнага пазнання свету здольнасць абвострана рэагаваць пачуццямі на прыгажосць і агіднасць, праўду і няпраўду... "Мастацтва павінна здзіўляць. Уся справа ў тым — чым здзіўляць? Многія сучасныя фільмы расчароўваюць менавіта таму, што аўтары іх не імкнуцца здзівіць фенаменальнасцю асобы, гэта значыць тым, дзеля чаго жыве мастацтва"...

Я выбрала ўсяго некалькі запаветаў С.А.Герасімава, а колькі іх рассыпана па кадрах і старонках яго фільмаў, кніг, выказванняў, у артыкулах, лекцыях, у часе здымак!.. У іх можна знайсці адказы на адвечныя пытанні, з чаго складаецца мастак, творца, майстра.

Майстра і геній — паняцці не ідэнтычныя, але і не супрацьлеглыя. Майстра вырастае з неардынарнай асобы ў працэсе ўзбагачэння яе духоўна, творча, прафесійна. Няшчасце сучаснага мастацтва Герасімаў бачыў не ў тым, што няма геніяў, а ў тым, што "няма прэтэндэнтаў на геніяльнасць". Сам ён, не прэтэндуючы на геніяльнасць, валодаў усімі вызначальнымі якасцямі Майстра, уключаючы здольнасць дзяліцца набытым, запальваць у сваіх вучняў прагу да творчасці, пошуку пранікнення ў глыбіню акалічнасцей характару як важнейшай катэгорыі мастацтва. "...У нас работа над сабой перайшла ў сферу гумарыстыкі, а між тым, гэта — галоўная работа, — звяртаўся Герасімаў да сваіх вучняў. — Без яе не ўтворыцца асоба".

Сам майстра няспынна працаваў над сабой. І з цягам часу ўсё больш пераконваўся ў тым, што ў аснове "шматступенчатай структуры вобразнага мыслення — веды, даследаванне, аналіз, якія сілкуюць канструктыўную волю мастака".

**Ефрасіння БОНДАРАВА,**
**прафесар, кінакрытык.**

*На здымку (злева направа): рэктар ВГІК імя С.А.Герасімава, прафесар А.Новікаў; кінарэжысёр Р.Грыгор'ева; прафесар Е.Бондарава; кінарэжысёр Ю.Грыгор'еў.*



# "ПРОСТАЯ МОВА" МАРГАРЭТ ДЗЮРАС

***Мы працягваем навёрстваць вымушаныя прабелы ў сусветным кінематографе. Сведчанне таму — рэтраспектыва фільмаў адной з самых магутных асоб еўрапейскай культуры — Маргарэт Дзюрас, якая адбылася ў Мінску. Гэты рэтраспектыўны паказ, які наладзіла Федэрацыя айчынных кінаклубаў пры дапамозе пасольства Францыі ў Беларусі, стаў значнай культурнай з'явай не менш за леташнюю кінапраграму "Сервільнае мастацтва Германіі".***

З творамі Маргарэт Дзюрас, што датычыцца не кніг (апроч аповесці "Палюбоўнік", надрукаванай у 1985 годзе ў часопісе "Иностранная литература") і фільмаў, пастаўленых самой Дзюрас, не былі знаёмыя нават кінаманы. Вядомы кінастужкі, у якіх пісьменніца была аўтарам сцэнарыяў, як славуты фільм Алена Рэнэ "Хірасіма, маё каханне". З Дзюрас супрацоўнічалі Рэнэ Клеман "Плаціна на Ціхім акіяне" (1957 г.), Тоні Рычардсан — "Марак з Гібралтара" (1967 г.). Менавіта стужка Алена Рэнэ разам з фільмам Анры Кальпі "Гэткая доўгая адсутнасць" (1961 г.) прынесла ёй сусветную славу.

Сярод апошніх экранізацый Дзюрас вядомы "Палюбоўнік", пастаўлены кінарэжысёрам малодшага пакалення Жанам Ано.

У рэтраспектыву ўвайшлі стужка Кальпі і эксперыментальны фільм вядомага тэатральнага рэжысёра Пітэра Брука "Мадэрата кантабіле" (1960 г.). Цікава, што першым гэты твор хацеў экранізаваць Ален Рэнэ і перад падрыхтоўкай да здымак фільма "Хірасіма, маё каханне" ён уяўляў перад сабой нешта накшталт "Мадэрата кантабіле", да якой прымешвалася б трывога перад атамнай вайной.

І Ален Рэнэ, і Пітэр Брук разумелі, разам з Дзюрас, што пераход ад звыклай сюжэтнай канструкцыі да музычнай — справа рызыкоўная. Але гэты мастацкі прыём, наадварот, садзейнічаў новым зносінам паміж мастаком і гледачамі. Як адзначаў Рэнэ яшчэ ў 1960 годзе, "глядач атаясамліваў сябе не з героямі, а з іх пачуццямі. Мы імкнуліся да таго, каб былі моманты супадзення з героямі і моманты адчужэння, каб гледачоў закранаў імгненні перажывання адналькавых з персанажам пачуццяў. І яны маглі б захаваць уласную здольнасць меркаванняў".

Творчасць Дзюрас прынесла ў кінематограф новыя аспекты ў псіхалогіі ўспрымання мастацкіх твораў. Гэта звязана з "дэканструкцыяй" сюжэта, з эксперыментамі з гукавым афармленнем, часовапрасторавымі маніпуляцыямі. Найбольш яскрава гэта адчуваецца ў фільмах, пастаўленых самой Дзюрас. У стужцы "Індзійская песні" (1975 г.), якая адкрыла кінапраграму, персанажы "пазбаўлены голасу" ў кадры. Галасы гучаць за кадрам несінхронна з дзеяннямі герояў на экране. На асінхроннасці вывы і гуку пабудавана не работа "Наталі Гранжэ".

Стужка "Чалавек з Атлантыкі" (1981 г.) нагадвае сімбіёз з творчых пошукаў Казіміра Малевіча і Дзерэка Джармэна. Іншы раз здаецца, што персанажы фільмаў Дзюрас падаюцца амбівалентнымі не толькі гледачам, але і аўтару. Ва ўсякім разе яна заўсёды пакідае свабоду для меркаванняў і ацэнак.

Большасць стужак Маргарэт Дзюрас створаны па матывах яе твораў. Але ў аснову фільма "Грузавік" пакладзены арыгінальны кінасцэнарый. Гэта адна з праграмных работ рэжысёра, якая выклікала шмат самых розных водгукаў у кінематаграфічных колах. Здаецца, што менавіта гэта стужка, створаная на пачатку 80-х, найбольш дакладна адлюстравала агульнаму настрою і тэндэнцыям сусветнага кінематографа нашага стагоддзя. І структура стужкі, і яе мастацкая мова, яе праграмнасць нарэшце здзівілі многіх калег Дзюрас на XXXI МКФ у Канах. Афіцыйны кіназнаўца з савецкай краіны назваў яе работу "эстэцкі-анархісцкай, прэтэнцыёзна-бездакназнай гульнёю" і г. д. На жаль, "справядлівасць" гэтай думкі і, наогул, парадаксальны стыль і мастацкія адкрыцці стужкі змаглі ацаніць на рэтраспектыве толькі знаўцы французскай мовы.

Гэты фільм разам з "Чалавекам з Атлантыкі" дэманстраваўся без перакладу. А для "Грузавіка" істотны момант — дыялогі герояў фільма, якіх ігралі Маргарэт Дзюрас і Жэрар Дэпардзье. Яны абодва ігралі саміх сябе: папулярнага акцёра і сцэнарыстку, пісьменніцу, якая чытала свой новы сцэнар. Дзюрас вызначыла характар фільма, яго эмацыйна-інтэлектуальны настрой, як "шлях вясёлай безнадзейнасці". І трэба адзначыць, што даволі цяжка сачыць за балансаваннем аўтара паміж густам і безгустоўнасцю, як і за ходам яе арыгінальных выказванняў. Аўтар самых пяшчотных, тонкіх твораў у літаратуры, яна засталася самай загадкавай асобай у кінематографе. Іншы раз здаецца, што для Маргарэт Дзюрас гэта галіна мастацкай дзейнасці была полем для трэніроўкі яе парадаксальнага мыслення.

У прадмове да фільма "Грузавік" Дзюрас напісала: "... Няма болей клопату ствараць фільмы страху. Рэвалюцыі. Дыктатуры пралетарыяту. Свабоды. Вашых пудзілаў. Кахання. Няма болей клопату.

Няма болей клопату здымаць кіношнае кіно. Зараз ні ўва што не верацц..."

**Галіна ШУР**

***Фільмы на тэлебачанні***

# ПРАЦЭС ПАЙШОЎ

Завяршаецца работа над фільмам "Еўфрасіння Полацкая". Аўтар стужкі Віктар Шавялевіч у новай рабоце працягвае арыгінальныя мастацкія пошукі ў распрацоўцы гістарычнай тэматыкі.

Пачаліся здымкі дакументальнай кінастужкі "Кветкі пад дажджом". Гераіня фільма — юны кампазітар з Ліды, "Моцарт з косамі" Дзінара Мазітава. Аўтары стужкі (сцэнарыстка Галіна Злабенка, рэжысёр Людвіг Гедравічус) збіраюцца закрануць таксама праблему існавання таленавітых дзяцей у сучасных умовах.

У запуску — фільм "Паўлінка" пра творчыя і асабістыя лёсы акцёраў, якія ігралі ў гэтай славутай п'есе. Стваральнікі стужкі (аўтар сцэнара Максім Клімковіч, рэжысёр Валерый Шышоў) маюць намер выйсці на філасофска-культуралагічны аспект выраашэння тэмы.

Уладзімір Арлоў прыступае да мантажу фільма "Радкі, вядомыя народу", прысвечанага Генадзю Бураўкіну.

Пачынаецца праца над здымкамі фільма "Постаці старога экрана". Рэжысёры Валерый Жыгалка і Сямён Шчаглоў працягваюць творчае супрацоўніцтва з Валянцінам Тарасам. Экранныя маналогі паэта і галоўнага героя — старэйшага ў рэспубліцы кінамеханіка, урыўкі з мноства фільмаў складуцца ў апаваданне пра пасляваенны Мінск, праўду і міфы таго часу.

**Г.Ш.**

# "ЛЕТАПІС" — ПРЭМ'ЕРА НА БТ

Пад рубрыкай "Прэм'ера дакументальнага фільма" Беларускае тэлебачанне паказала кінастужку "Евангелле ад маці".

Асоба галоўнага героя фільма — паэта Рыгора Барадуліна даволі прыцягальная для нашых кінематаграфістаў, што, наогул, зразумела. Цікава, што апошнія фільмы, прысвечаныя паэту, носяць назву з абыгрываннем біблейскіх матываў. Папярэдні фільм Сяргея Лук'янчыкава "Акафіст Уладзіміру", прысвечаны У.Караткевічу, стаў цікавай мастацкай з'явай на шляху пошуку ў жанры творчага партрэта. Лук'янчыкаў паспрабаваў знайсці такую мастацкую форму, якая б суадносілася з філасофічнасцю паэзіі Барадуліна; у фільме было шмат цікавых кінематаграфічных метафар, складаных драматургічных прыёмы...

Аўтары новай стужкі "Евангелле ад маці" — С.Палякоў, С.Пятроўскі абралі больш традыцыйную форму, якая характэрна для нашага кінематографа. Гэта мадэль паэтычнага нарыса. У фільме таксама адчуваецца спроба высвеціць галоўныя асаблівасці паэзіі Барадуліна. Аўтары стужкі паспрабавалі мовай кінематографа раскрыць на экране такія паняцці, як "вытокі творчасці паэта", "уплыў на паэзію". Асноўны эмацыйны матыў стужкі — глыбінны ўплыў на паэта яго маці. Адсюль — інтанацыя суму і адвечнай адзіноты чалавека на зямлі.

Можна адзначыць і выдатную аператарскую работу, дастаткова прафесійны мантаж, асабліва гэта датычыць рытмічнай суаднсці кадраў фільма з паэзіяй Барадуліна і музычным афармленнем...

Аўтары фільма цалкам засяродзіліся на асобе героя. Стужка не стала буйной мастацкай з'явай, але яе нельга лічыць таксама шараговым фільмам пра паэта. Дакладней — гэта спроба кінематаграфістаў перадаць глыбінны змест асобы паэта ў межах традыцыйных жанраў.

**Г.Ш.**

## АД КАЛЯД ДА ПАКРОВА

***Шаноўныя чытачы!***

***У № 47 ад 26 лістапада — 2 снежня 1996 года матэрыялам “Калядныя варожбы” наша газета распачала друкаваць сцэнарыі гульнёвых праграм, якія могуць быць шырока выкарыстаны работнікамі сферы культуры, настаўнікамі і ўсімі, хто займаецца адпачынкам грамадзян падчас правядзення масавых мерапрыемстваў, прысвечаных святам каляндарна-абрадавага цыкла.***

***З бліжэйшых падзей такога кшталту — Масленіца. Таму сёння мы змяшчаем сцэнарый масленічнай гульнёвай праграмы “Куток халастых, альбо Калодка” і прапануем шэраг народных забаў, якія без вялікіх выдаткаў можна арганізаваць у парку, скверы, іншых месцах правядзення свята.***

***Адначасова просім культработнікаў з месцаў дасылаць у рэдакцыю ўласныя распрацоўкі правядзення тых або іншых масавых мерапрыемстваў, якія могуць зацікавіць калег з другіх рэгіёнаў. Лепшыя сцэнарыі будуць змешчаны на старонках газеты. Тым жа, хто пакуль не мае асабістага аўтарскага вопыту, раім выказацца пра пажаданую тэматыку будучых публікацый “Культуры”. Мы ўлічым гэтыя меркаванні пры падрыхтоўцы наступных метадычных матэрыялаў.***

***Для ўсіх зацікаўленых нагадваем, што працягваецца падпіска на газету “Культура” на наступныя месяцы. Наш падпісны індэкс 63875, кошт падпіскі:***

***на 1 месяц 7 тысяч рублёў;***

***на 3 месяцы 21 тысяча рублёў.***

***Выбіраючы нашу газету, Вы аддаяце свой голас:***

***— за нацыянальнае адраджэнне Беларусі;***

***— за зберажэнне і развіццё культурных традыцый беларускага народа;***

***— за больш важкі клопат дзяржавы ў вырашэнні матэрыяльна-эканамічных праблем культуры.***

# КУТОК ХАЛАСТЫХ, АЛЬБО КАЛОДКА

Пляцоўка афармлена як сялянская вуліца (плот, калодзеж).

На плоце на рознакаляровых стужках — драўляныя цурачкі.

Гучаць вясёлыя найгрышы дуды.

На пляцоўку выходзіць Вядучая — дзяўчына ў беларускім народным убранні.

ВЯДУЧАЯ: Добры дзень, шаноўныя людзі! Дзевачкі-галубачкі, хлопцы-ўдальцы!

*У нас сёння Масленіца!*
*Прыляцела к нам ластавіца,*
*Села на капу, скінула масла*
*на каму.*
*Масленая, шчаслівая,*
*Працягніся да Вялікадня!*
*Масленачка, бела вутка,*
*Нясі сыру, масла да нас хутка!*
*Масленку сустракалі,*
*Сырам гару набівалі,*
*Маслам гару палівалі.*
*Як на Масленай нядзелі бліны*
*з гарачкі ляцелі.*
*Масленіца-пышка на вуліцу*
*выйшла!*

А ці ведаеце, мае даражэнькія, у што гулялі на Масленіцу?

Гушкаліся на арэлях, кідаліся ў сняжкі, каталіся на санках з горак. А яшчэ на Масленіцу частаваліся блінамі, галушкамі ў смятане і клёцкамі ў малацэ. Колькі ж страў можна прыгатаваць са смачным духмяным малаком, ды і з самога малака?

Хто з вас назаве больш за ўсіх малочных страў, той і будзе пераможцам у нашым "малочным" аўкцыёне, атрымае смачны пачастунак.

(Праводзіцца аўкцыён "Малочныя стравы")

ВЯДУЧАЯ: Я запрашаю да сябе вось гэту прыгожую дзяўчыну. Вы шмат ведаеце малочных страў, і я частую вас кубкам смачнага, свежага малака, каб шчокі вашы былі заўсёды ружовенькія. Пэўна ж, вы прыйшлі на свята з сяброўкамі? Дык запрашайце іх сюды да нас.

(Дзяўчына прыводзіць сяброўак)

ВЯДУЧАЯ: Якія красуні сабраліся тут! А ці ведаеце, што раней дзяўчаты на Масленічнай нядзельцы, як сустрэнуць хлопца маладога на вуліцы, дык начэпяць яму на шыю калодку ў пакаранне за тое, што не ажаніўся ў мінулы мясаед? Вунь, бачыце, дзяўчаты: хлопцы маладыя паселі. Вядзіце іх хутчэй да мяне!

(Дзяўчаты вядуць хлопцаў)

ВЯДУЧАЯ: Вось вам, дзевачкі, цурачкі: пачапіце іх на хлопцаў. А вы, хлопцы, зараз павінны адкупіцца — гульнямі, песнямі, танцамі, загадкамі. Я вам буду загадваць пра каханне, сямейнае жыццё. А хто не адгадае, той да веку жаніцца не будзе.

1. Што люблю — не куплю, чаго не любіш — не прадам.

(маладосць і старасць)

2. Чатыры чатыркі, пятая лубяначка, а шостая каханачка.

(калыска і дзіця)

3. Усе кузні абхадзіў, а не кованы застаўся.

(халасцяк)

ВЯДУЧАЯ: Як вы хутка мае загадкі адгадалі, малайцы, кемлівыя. А ці падабаюцца вам нашыя дзяўчаты? Пэўна ж вы, хлопцы, ведаеце шмат песень пра дзяўчат? Вось зараз і мне паспяваеце тыя, дзе сустракаюцца слова "дзяўчына" альбо жаночае імя. А дзяўчаты будуць спяваць песні, дзе сустракаюцца слова "хлопец" альбо мужчынскае імя. А гледачоў мы падзелім на дзве каманды, два хары: злева хорам кіруюць хлопцы, а справа — дзяўчаты.

(Першы спявае хор пад кіраўніцтвам дзяўчат. Затым — пад кіраўніцтвам хлапцоў)

ВЯДУЧАЯ: Якія цудоўныя хары атрымаліся! Прашу праспяваць цяпер разам якую-небудзь песню, пажадана пра каханне.

(Усе разам спяваюць песню "Касіў Ясь канюшыну")

ВЯДУЧАЯ: Так, добра спявалі, але ж, на мой погляд, перамагла каманда дзяўчат (хлапцоў). І пераможца ў спевах запрашае другую каманду на польку-паскакуху.

(Гучыць полька)

ВЯДУЧАЯ: Вось, хлопцы, пакуль вы тут спявалі і танцавалі, пэўна ж, і дзяўчыну сабе прыкмецілі. Зараз я даведаюся, ці добра вы разглядзелі сваіх дзяўчат, з якімі так гарэзліва танцавалі.

(Вядучая вядзе дзяўчат за шырму і размяшчае іх так, каб былі бачны толькі ногі)

Хлопчыкі, пазнайце сваю дзяўчыну, з якой вы танцавалі, якая вам спадабалася, па чаравічках.

(Хлопцы шукаюць)

Той, хто знайшоў, становіцца ў пары, а хто не знайшоў, гуляе ў гульню "Вяроўка".

ВЯДУЧАЯ (звяртаецца да прайграўшых у папярэднім конкурсе): Не сумуйце, хлопцы, я даю вам яшчэ адну магчымасць знайсці сабе пару. Слухайце ўважліва. Удзельнікі гульні ўтвараюць два канцэнтрычныя кругі. Дзяўчаты становяцца ў знешні; хлопцы ў той, што бліжэй да цэнтра, у трох кроках ад дзяўчат. Гурт хлопцаў абкружаны, як кальцом, звязанай канцамі вяроўкай, якую яны трымаюць рукамі на ўзроўні пояса. Гучыць музыка. Усе рухаюцца карагодам у сваіх кругах. Як толькі музыка змаўкае, кожны хлопец павінен, не выпускаючы вяроўку, пастарацца пераадолець адлегласць да дзяўчыны насупраць, каб пацалаваць яе. Зрабіць гэта не проста, бо кожны цягне ў свой бок. Перамагае самы дужы, якому першаму ўдаецца пацалаваць "сваю" дзяўчыну, не дакрануўшыся да яе рукамі.

(Гульня паўтараецца некалькі разоў, пераможцы ўзнагароджваюцца прызамі і пацалункамі дзяўчат)

ВЯДУЧАЯ: Ну і хлопцы-пераможцы! Такіх сабе дзяўчат прыдбалі, люба глянуць. Якія красуні, ды не з якіх заморскіх краін, а з нашых родных мясцін. І спяваць умеюць, і танцаваць прыгожа, і гасцінна частаваць. Добрыя гаспадынькі будуць: і накормяць, і прыгалубяць. Ой, жаніцеся, хлопцы, не адкідвайце работу на суботу, а вяселле на старасць, бо, як вядома — "не жанаты — не багаты", а хто захоча жаніцца — таму ў куту не сядзіцца. Дык чыё ж вяселле першае гуляць будзем? Дзяўчаты хай стануць і ўтвораць нам дугу, як сімвал вяселля, а хлопцы з завязанымі вачамі тры разы абягуць вакол вось гэтай калоды, стануць на калені і пастараюцца прапаўзці ў дугу. Каму гэта ўдасца, той абавязкова ў гэтым годзе вяселле згуляе. А калі не, то цягаць яму гэтую калодку да наступнай Масленіцы.

(Гучыць музыка)

Пасля заканчэння гульні вядучы вызначае пераможцаў.

ВЯДУЧАЯ: Вой, хлопцы, нездарма ў народзе кажуць:

"Ажаніся, чорце, не будзеш круціцца!"

А каб дакладней даведацца, праз колькі часу вяселле будзе, паскачыце праз гэтую вяроўку. Дзяўчаты, разгушквайце вяроўку, а мы будзем лічыць. Хто больш за ўсіх праскача, той хутчэй і ажэніцца.

(Хлопцы па чарзе скачуць праз вяроўку)

ВЯДУЧАЯ: Ну што ж, хлопцы-ўдальцы, мы пераканаліся ў тым, што ніхто з вас халасцяком не збіраецца застацца. Дык хопіць ужо вам цягаць гэтыя калодкі, а запрасіце лепш сваіх дзяўчат на вясёлую кадрылю. Калодку я пакладу паміж парамі. Але ж асцярожна, толькі не зачапіце, калі будзеце танцаваць. Хто калодку не зачэпіць, у таго будзе моцнае каханне на ўсё жыццё.

(Гучыць музыка. Усе танцуюць)

ВЯДУЧАЯ: Дзякую ўсім за весялосць і жарты і частую самымі смачнымі, самымі салодкімі блінамі. Бо блін — гэта сімвал трох адзінстваў: Зямлі, Агню і Вады. Хто будзе есці бліны на Масленіцу, той будзе бадзёры, здаровы, прыгожы і закаханы. Дык няхай жа, сябры, будуць дні вашага жыцця ў шчасці і каханні. І няхай трывогі змяняюцца радасцямі.

(Гучыць музыка. Вядучая частуе ўсіх блінамі)

Да пабачэння!

Сустрэнемся праз год!

**Падрыхтаваў Пётра ГУД, загадчык кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры.**

## ПАЛЕСКІ ПРЫЗАВЫ СЛУП




Для гэтага атракцыёна на Палессі выбіралася роўнаствольнае дрэва не менш як 16 метраў вышынёй. Дрэва ачышчалі ад кары, а ў вяршыню ўбівалі тоўсты, паўтараметровай даўжыні металічны драб, да якога мацавалі ў вертыкальным становішчы кола ад воза. На коле замацоўвалі прызы. Слуп закопвалі ў зямлю на глыбіню 1,5м.

Удзельнік павінен быў залезці на самы верх слупа, стаць на вяршыні слупа на калена ці на ногі, ухапіўшыся за прут, і, варочаючы кола, выбраць сабе і адвязаць ад кола любы з прызоў.

Задача была надзвычай складанай, тым не менш атракцыён карыстаўся вялікай папулярнасцю, і знаходзілася нямала ахвотнікаў паказаць сваю смеласць, сілу, рашучасць і здабыць каштоўны прыз для сябе ці сваёй каханай.

## “ГРУНВАЛЬД”

На аснове старажытнай народнай забавы, у якой два ўдзельнікі імкнуліся спіхнуць адзін аднаго з гарызантальнага бервяна, студэнты кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры прыдумалі новы атракцыён.

На драўляных слупах, закапаных у зямлю, на вышыні 1,5 метра замацоўваецца ў гарызантальным становішчы пяціметровае бервяно, да якога з двух бакоў прыстаўлены лесвіцы.

На бервяно з абодвух бакоў забіраюцца два "рыцары". У аднаго з іх — на галаве шлем ваяра Вялікага княства Літоўскага, а ў левай руцэ — шчыт з выявай Пагоні. У другога — на галаве шлем, а ў левай руцэ — шчыт крыжака. У правай руцэ кожны "рыцар" трымае сетку, у якой знаходзіцца вялікі надзьмуты дзіцячы мяч.

Задача тых, хто бярэ ўдзел у гульні: абараняючы шчытом, збіць мячом шлем з галавы саперніка альбо яго самога з бервяна.

Той, хто пераможа пяцярых сапернікаў запар, атрымлівае прыз.

Гэты атракцыён зараз карыстаецца вялікім поспехам, асабліва сярод падлеткаў.

## “ЛЕДЗЯНАЯ ГОРКА”

Адным з папулярных зімовых паркавых атракцыёнаў Беларусі 50 — 60-х гадоў нашага стагоддзя была "Ледзяная горка".

У зямлю ўбівалі чатыры васьміметровыя бервяны, на якіх замацоўвалі агароджаную плотам драўляную пляцоўку з шырокапалоснай лесвіцай. Ад драўлянай пляцоўкі да зямлі пад вострым вуглом прымацоўвалі пакрытую металічным лістом драўляную пляцоўку-скат, якая падтрымлівалася драўлянымі слупамі рознай вышыні. Пляцоўка-скат і стометровая дарожка, якая вяла ад канструкцыі да фініша, абліваліся вадой і пад уздзеяннем марозу ператваралася ў ледзяную пляцоўку. Удзельнікі гульні, забраўшыся на верхнюю пляцоўку, на разнастайных санках скочвалася ўніз.

На сучасным этапе ледзяная горка можа стаць гульнёва-камерцыйным дзеяннем. Паркавая адміністрацыя можа наладзіць тут продаж білетаў за права катацца з горкі на санках парку за вызначаны адміністрацыяй час (напрыклад — 20 хвілін). Тут жа можна пры горцы арганізаваць работу выязных буфетаў з продажам гарбаты, кавы, кандытарскіх вырабаў, што таксама будзе спрыяць прытоку ўдзельнікаў. На ледзяной горцы можна ладзіць разнастайныя эстафеты з перашкодамі і іншыя спаборніцтвы.

Спробы арганізацыі ледзяной горкі як доўгатэрміновага паркавага атракцыёна паказалі эканамічную мэтазгоднасць гэтага гульнёвага дзеяння.



ЗАМЕСТ КРОПКІ

# "ПРАВІНЦЫЙНЫ" БЛЮЗ ДЛЯ ПРАВІНЦЫІ



***Такога турнэ па Беларусі не рабіў, бадай, яшчэ ніводзін выканаўца. За вельмі сціслы тэрмін, нейкія паўтара тыдні, аб'ехаць усе вялікія гарады Беларусі з канцэртнай праграмай было не проста. Але ці быў бы Шалкевіч самім сабой, як бы не дамогся гэтага, і не дарэмна. Цяпер сталічныя гурты, выпусціўшы новы альбом, граюць яго ў сталічных жа клубах і да правінцыі музычныя навінкі даходзяць, калі даходзяць увогуле, з вялікім спазненнем. Безумоўна, гастролі рабіць вельмі дорага, ды, напэўна, яны сябе і не акупяць. Тым больш, калі ў музыкаў беларускі рэпертуар. Таму фінансавую дапамогу ў правядзенні гэтага турнэ аказаў Беларускі Фонд Сораса. Пасля канцэрта на "Вольнай сцэне" я і задаў колькі пытанняў Віктару Шалкевічу, аўтару тэкстаў і музыкі альбома "Смутны беларускі блюз", што стаўся асновай для прапанаванай слухачам праграмы з гэткай жа назвай.***

**— Як доўга ты збіраў песні для альбома?**

— Я проста складаў яго ў храналагічным парадку. У альбоме ёсць песні старыя, як "Жлобская нацыя" — ім гадоў па пяць—сем, так і нядаўна створаныя — гэта "Песня пра саксафаніста Сярожу". Напісана ўжо вельмі шмат, і з часам збіраюся запісаць усё.

**— Тое, што ты выконваеш на сцэне — гэта далёка ўжо не бардаўская песня, але не папса і не рок.**

— Ведаеш, я калісьці купіў касету англійскага барда Білі Брэга, дык гэта бадай той самы Боб Дзілан. А ўвогуле, нашая музыка бліжэй да рока, чым да папсы. Мы проста эксперыментуем і да нейкага жанру не прывязваемся.

**— Гэта заўсёды добра, калі займаешся тым, што табе падабаецца. Часцяком бывае, што калектывы збіраюцца толькі для запісу альбома, але вы здолелі зарганізаваць і гастрольную паездку. Гэта цешыць. Як склаўся калектыў?**

— Гітарыст Віктар Грышук і клавішнік Анатоль Кандыба гралі ў калісьці слынным гарадзенскай групе "Тэатр". Потым група распалася і з яе складу засталіся толькі яны ўдваіх. Адна з найлепшых у Гародні скрыпачак Наталля Трухан вучыць маю дачку. А паколькі мне надакучыла спяваць пад адну гітару, дык я і вырашыў стварыць такі кангламерат. Да таго ж гэта дадае эфекту ў гучанне многіх песень. Гітарнае сола файна дапаўняе "Хамскую ўладу". Атрымаўся дастаткова добры эксперымент.

**— Акрамя спеваў ці займаешся чым іншым?**

— Так. У мяне зараз такі перыяд, з 35 да 40 гадоў трэба нешта зрабіць. Для сябе, для сям'і, для людзей. Цяпер эпоха Вадалея, а я — Вадалей, Воднік. Я адчуваю, што на мяне пачалі звяртаць увагу. Аказваецца, я дастаткова адметная індывідуальнасць. У мяне ёсць свой твар, і пры ўсім тым, я вельмі цікавая асоба. Але я не прэтэндую ні на што. Я ж не адбіраю хлеб у Саладухі, не дай Бог. Я проста займаюся тым, чым мне цікава займацца.

**— Пры гэтым паспяваеш яшчэ здымацца ў кіно, іграць у тэатры, быць аўкцыяністам...**

— Дарэчы, яшчэ вось у Францыю паеду весці аўкцыён.

**— Як поспехі ў вывучэнні ідыш?**




— Гэта мая нерэалізаваная мара. Калісьці звязаўся з габрэйскім ансамблем. Думаў, будзе святкаванне 3000-годдзя Іерусаліма, і цешыў сябе думкай — вось вывучым песню па-габрэйску, нас заўважаць і адправяць туды на гэтае святкаванне. Я проста хацеў пахадзіць па Святой зямлі, дзе калісьці хадзіў Хрыстос. Але там такіх хітрых, як я, было зашмат. І калі гэтым займацца стала бесперспектыўна, мы распусцілі ансамбль і занялiся, чым займаемся і зараз — "Смутным беларускім блюзам".

**— Помню, раней да тваіх песень рабіў аранжыроўку іншы гітарыст.**

— Неяк было, што мы "склялалі" "лайфаўскую" касету за адну ноч. Гэта было ў клубе "Лясныя азёры" ў Вані Варкіры, ёсць такі гукаапаратар. Проста хацелася з чымсьці прыехаць на "Басовішча". Мне за яе брыдка да гэтага часу, але касета ўжо — рарытэт, які шукаюць. Усё ж "азёрны" альбом сам па сабе цікавы. Сабраліся тры хлопцы — акустычная і электрагітара, клавішы і голас, селі і нешта запісалі ўсяго за ноч. З тэхнічнага боку не вельмі якасна, але можа калі-небудзь і пачысцім яе.

**— Што рабіць будзеш, як вернешся дадому?**

— Што ты! У нас процьма спраў. Трэба ехаць у Беласток на радыё пісаць новую праграму.

**— Колькі словаў пра яе.**

— Я калісьці напісаў многа польскіх песень. Увогуле я люблю танга, а цяпер узнікла запатрабаванне на такі "местачковы" польскі варыянт. На Польскім радыё мяне папрасілі зрабіць нешта такое. Мы з групай запісалі дэма-касету. Ім спадабалася. Тым больш, што я ўмею гаварыць так, як гавораць і не палякі, і не беларусы, а неяк так, на "памежным" дыялекце. Ёсць спадзеўка, што зможам запісаць цэлы кампакт такіх песень.

**— Піва любіш?**

— Стр-р-рашэнна!

**— Ці быў які цікавы выпадак, што здарыўся падчас цяперашніх гастроляў?**

— Гэта калі ледзь не ляснулася шыба ў нашым "Фольксвагене". Вылецеў аднекуль здаравенны камень — і проста ў лабавое шкло, мы аж прыселі. Але нічога страшнага не здарылася, толькі шыба стала як павуцінне...

**— Аўтамабіль табе — не фурманка... А можа, прыгадаеш сваю любімую показку?**

— Вылазіць свіння з поля, дзе цвітуць макі, на дарогу. А па дарозе шыбуе чалавек. Тая свіння на яго: "Г-гаў!.." А потым, хіснуўшы галавой: "Вой! Што я кажу?"

**— Словам, паліглот, як і ты... А калі без жартаў — поспехаў і плёну табе ў любімых занятках!**

**Гутарыў Андрэй ВАШКЕВІЧ**

*На фота: Віктар Шалкевіч (на пярэднім плане) у кампаніі журналіста гарадзенскай газеты "Інфабіржа" Мішы Карневіча за стр-р-рашэнна любімым заняткам.*

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# ЖАРТЫ ЗНАКАМІТЫХ

***Ці звярнуў ты ўвагу, паважаны чытач, на такую невялікую, але значную акалічнасць нашага часу — мы сталі мала ўсміхацца, смяяцца, а заўзята рагатаць і зусім развучыліся? Што казаць — варункі нашага жыцця дый і цэны ў крамах, што растуць як грыбы пасля дажджу, не спрыяюць весялосці, больш адпавядаюць змрочнаму і прыгнечанаму настрою. Вось тут і варта ўспомніць, што ва ўсе часы ад усіх нягод людзей ратавалі добрыя і дасціпныя жарты і вясёлыя гісторыі. (Інакш іх называлі заўсёды анекдоты.) І сёння, распачынаючы новую рубрыку, мы маем на мэце адно: каб цёплая ўсмешка не пакідала цябе, дарагі чытач, і каб ты не толькі пасмяяўся, але і больш даведаўся пра вядомых музыкантаў і кампазітараў. Хутчэй за ўсё, яны раскрыюцца для цябе з новага, зусім нечаканага боку. Будзь з намі, дарагі чытач, і ты не пашкадуеш!***

* * *

Аднойчы, калі опера "Чароўны стралок" была ўжо напісана, кампазітар Вебер вырашыў паказаць партытуру Бетховену, думкай якога надзвычай даражыў. Бетховен пазнаёміўся з творам і адаслаў яго назад Веберу, прыклаўшы да нотаў невялічкую запіску, у якой параіў Веберу опер больш ніколі не пісаць. Разгублены і пакрыўджаны такой нечаканай ацэнкай, Вебер вырашыў парваць назаўсёды стасункі з Бетховенам. Але неяк яны ўсё ж сустрэліся, і Вебер спытаў, чым ён заслужыў такі адказ, няўжо музыка сапраўды такая безнадзейна слабая?

— Не, ні ў якім разе, — адказаў Бетховен, — зусім наадварот, гэта музыка такая дасканалая, што лепшай стварыць ужо немагчыма!

* * *

З малодшым братам Іаганам у Бетховена былі складаныя адносіны. Іаган быў аптэкарам, накапіў шмат грошай, купіў маёнтак і вельмі ганарыўся гэтым. Аднойчы ён даслаў сваю візітоўку брату, на якой было напісана: "Іаган ван Бетховен. Землеўладальнік". Атрымаўшы яе, на другім баку візітоўкі кампазітар напісаў: "Людвіг ван Бетховен. Мозгаўладальнік".

* * *

Малады кампазітар неяк звярнуўся да Эктора Берліёза і папрасіў, каб ён ацаніў яго творы. Прабегшы партытуры, знакаміты кампазітар заявіў:

— На жаль, вымушаны вам сказаць, што вы не маеце і мінімальных музычных здольнасцей. Не буду ўводзіць вас у зман, каб вы маглі, пакуль гэта магчыма, выбраць сабе іншую прафесію.

Калі ж засмучаны маладзён быў ужо на вуліцы, Берліёз раптам з'явіўся ў вакне і закрычаў:

— Малады чалавек, я хачу ўсё ж вам сказаць, што, калі я быў у вашым узросце, мой прафесар сказаў мне тое ж самае, што я зараз вам.

* * *

Аднойчы пасля канцэрта да Берліёза падбег маленькі чалавек, ухапіў яго за левы рукаў фрака і паспешліва прагаварыў:

— Маэстра, я вялікі прыхільнік вашага таленту... Прашу дазволу дакрануцца да рукі, якая напісала "Рамэа і Джульету"!

— Спадар, вам трэба трымацца за правы рукаў: я пішу заўсёды правай рукой...

* * *

Знакамітая англійская спявачка Адэліна Паці неадноўчы прасіла ў Берліёза аўтограф. Ён чамусьці ёй адмаўляў. І вось аднаго разу пры сустрэчы яна зноў звярнулася да яго:

— Маэстра, прашу вас напісаць некалькі радкоў у мой альбом. Узнагароду можаце выбіраць самі: альбо я вам праспяваю, альбо пачастую цудоўным паштэтам, які мне сёння прывезлі з Тулузы.

Берліёз узяў альбом і напісаў два лацінскія словы.

— Што гэта значыць?

— Гэта значыць: "Прынясіце паштэт", — усміхнуўся Берліёз.

* * *

На адным з канцэртаў Брамс акампаніраваў віяланчэлісту і спецыяльна іграў вельмі гучна, каб не пачуць дрэнную ігру партнёра. Віяланчэліст падышоў да Брамса пасля канцэрта з папрокам:

— Чаму вы ігралі так гучна, я сам сябе не чуў падчас канцэрта!

— Ды вы проста шчаслівы чалавек! — адказаў яму кампазітар.

* * *

Неяк Брамсу давялося лячыцца на мінеральных водах у адным з нямецкіх курортаў. Калі курс лячэння закончыўся, доктар спытаўся ў яго:

— Ці задаволены вы лячэннем? Магчыма, у нас чаго-небудзь не хапае?

— Дзякую. Усе хваробы, якія прывёз з сабою, я вязу назад.

* * *

Неяк сябар Брамса, які выходзіў разам з кампазітарам з дому, дзе той доўгі час жыў, глыбакадумна адзначыў:

— Уяўляю, што напішуць на мемарыяльнай дошцы, якую павесяць на сцяне гэтага дома пасля вашай смерці!

Брамс здзекліва адказаў:

— Хутчэй за ўсё: "Здаецца кватэра".

* * *

Аднойчы кампазітар Аляксандр Барадзін запрасіў да сябе гасцей. Калі вечар быў у самым разгары, Барадзін раптам падняўся, надзеў паліто і стаў развітвацца.

— Куды ж гэта вы? — спыталіся разгубленыя госці.

— Усяго найлепшага, — адказаў рассеяна кампазітар. — Мне трэба быць ужо дома, зараз так позна! У мяне заўтра лекцыя...

Выбухнуў смех, і толькі тады гаспадар зразумеў, што ён у сябе дома.

**Падрыхтавала Алена РЫГОРАВА**

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ "ПАЭЗІЯ", надрукаваную ў № 6 :**

***Па гарызанталі:***

1. Петрарка. 4.Караткевіч. 7. "Яраслаўна". 10. "ПАЦІМАТ". 12. Нейман. 13. Крокі. 15. "Тройка". 18. Актава. 20. Шваб. 21. Тарас. 22. Камінскі. 23. Русак. 24. Лукіян. 25. Ідэя.

***Па вертыкалі:***

2. Тулупава. 3. Калідаса. 5. Ахматава. 6. Чукоўскі. 7. Ян. 9. Някрасаў. 10. Паэт. 11. "Маскарад". 14. Інбер. 17. Шалі. 19. Танк.

***Па зігзагу:***

4. Квантэма. 8. Лорка. 16. Рубаі.

КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 18.02.97. у 11.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 3250
Замова 261
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**